# Навошта

– Падумаеш! Святая знайшлася!

Ганка заплакала. Бо чаго сястра кпіць з яе? Ганка хацела раздзяліць пірог, які дала мама, на чатырох. Бо гэта ж справядліва: калі гуляем разам, то і частавацца таксама трэба разам...

Ды Аленка нават абзывацца пачала. А іхнія сяброўкі – Тоня з Кацяй – і ўвогуле нічога не ведаюць пра пірог. Яны прыбягуць, а пірага ўжо...





– Святой хочаш быць? Лепшай за ўсіх? – кпіла Аленка, уплятаючы за дзве шчакі пакуль што сваю, чацвёртую частку пірага.

Ганка зноў заплакала. Не, яна не хоча быць лепшай за ўсіх.



– Добры дзень! Ой, а ў вас таксама пірог з яблыкамі? Нам мама спякла пірог, і мы прынеслі вас пачаставаць... — зачасціла Тоня з парога.

– Нашы мамы што, згаварыліся?

– Як жа мы ўсё гэта з'ядзім? – схапілася за галаву Аленка.



# быць святым?

– А давайце падзелімся з дзядулем і бабуляй з 4-й кватэры, бо ім няма каму спячы пірага, – прапанавала Каця.

Ганка запляскала ў ладкі: бо сястра не стане абзываць Кацю святой. Яе, Ганку, абазвала б, а Кацю не будзе.



...Бабуля заплакала. Як сказала потым – ад радасці. А дзядуля адкусіў кавалак пірага і заплюшчыў вочы:

– Як у небе!

– А што, у небе мы пірагі будзем есці? – запытала Аленка.



– Не ведаю, што мы там будзем есці, – адказаў дзядуля, – але ведаю толькі, што на сэрцы гэтаксама будзе цёпла і светла.

А бабуля зноў заплакала – ад радасці...

*А. Барткевіч*

*Малюнкі Вольгі Важнік.*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 3 (73)/2016 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 000 экз. Заказ № 3621.
Падпісана да друку 13.10.2016 г. Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди»
Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013. Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.

# На сувязі з Небам

Звычайна ён носіць гэткае ж імя, як і ты. І ўжо гэта робіць вас блізкімі. Нават у тым выпадку, калі твой апякун жыў на зямлі даўным-даўно. А магчыма, ён жыў зусім у іншай краіне, размаўляў на іншай мове, еў зусім іншыя стравы, а ў дзяцінстве гуляў зусім у іншыя гульні. Бо хіба мог, напрыклад, святы Францішак гуляць на камп'ютары? Альбо хіба святы Антоні праседжваў дні напралёт, гуляючы ў смартфоне?

І ўсё ж у нас з імі вельмі шмат агульнага. Найперш нас яднае тое, што і яны, якія жылі на зямлі ў самыя розныя гады і эпохі, і мы належым Хрысту. І іх, і нас Хрыстус моцна палюбіў і нават прыняў за кожнага з нас страшную смерць на крыжы.

Праўда, адрозніваць нас можа тое, наколькі ўжо мы любім Хрыста. Ці прагнем мы гэтаксама, як і нашы апекуны з неба, нават у найменшых дробязях заставацца вернымі Хрысту?

Магчыма, хтосьці з вас запярэчыць, бо святыя ж таксама мелі ў свой час грахі, слабасці. Яны таксама маглі з некім спрачацца альбо нават і пабіцца з кімсьці. Было. Гэта праўда. Але розніца можа быць у тым, што яны пасля нейкіх сваіх памылак ды правінаў спяшаліся паяднацца з Хрыстом. Іх моцна засмучалі ўласныя слабасці. Бо каго яны засмучаюць, той будзе спяшацца пазбавіцца ад іх. Ці не так?

А як мы змагаемся са сваімі слабасцямі? Ці заўсёды вядзем з імі непрымірымую вайну? Бадай што, гэта – адзіная вайна, якую можна апраўдаць. Дарэчы, дзеля таго, каб гэтае наша змаганне было паспяховым, можна звяртацца па дапамогу да іх жа, нашых нябесных апекуноў.







Напрыклад, таму, хто мае ўзрыўны характар, хутка запальваецца гневам, будзе карысна звяртацца па дапамогу да святых Язафата Кунцэвіча, Андрэя Баболі. Бо яны таксама мелі далёка не залатыя характары, але з цягам часу перамаглі свае недахопы. Таму, хто любіць прыроду, звяроў ды птушак, але не заўсёды здольны наладзіць з імі прыязны кантакт, карысна звярнуцца да святых Францішка Асізскага альбо да святога Роха. А тыя з вас, хто лянуецца фізічна працаваць ды дапамагаць маме па гаспадарцы, могуць звяртацца па дапамогу да святога Юзафа альбо да святой Марты. Паверце: яны самі ведалі толк у працы, дык і вас падтрымаюць. Ну а тым, хто падленьваецца вучыцца ў школе (здараецца і такое!), варта звяртацца ў малітве да Яна Марыі Віянэя альбо да Тэрэзы Авільскай, Кацярыны Сіенскай.

Засталіся яшчэ тыя з вас, хто баіцца ўсялякіх розных непрыемнасцяў, баіцца цемры альбо і ўвогуле баіцца так шмат чаго, што ўсяго й не пералічыш. Ім карысна будзе звярнуцца па дапамогу да нябесных заступнікаў, якія самі ў жыцці зведалі страх і перамаглі яго. Іх вельмі шмат. Напрыклад, святы Лаўрэн альбо святая Агата. Альбо благаслаўлёныя Антоні Ляшчэвіч, Мечыслаў Багаткевіч, Юры Кашыра, святыя Тарцый, Максімільян Кольбэ...

Галоўнае, як бачыце, быць заўсёды на сувязі з Небам!..

***А цяпер — увага! Пытанні для найбольш уважлівых і дапытлівых.***

**Хто з названых у гэтым артыкуле святых і благаслаўлёных мае непасрэднае дачыненне да Беларусі?*

**Хто з іх мае дачыненне да нашага часопіса?*






*Малюнак Эвеліны Безручонак.*



# ФАЦІМА ЗАКЛІКАЕ ДА МАЛІТВЫ

У будучым годзе споўніцца 100 гадоў вельмі важнай падзеі – аб'яўлення Маці Божай у Фаціме, што ў Партугаліі. Яна, наша Маці, аб'явілася тады траім дзецям – Гіацынце, Францішку і Люцыі. Праз іх Яна перадала наказ усяму свету: заклікала людзей да навяртання, пакаяння і малітвы. Маці Божая папярэдзіла людзей аб вялікіх выпрабаваннях, якія чакаюць іх, калі яны не прыслухаюцца да гэтага закліку.

Вось якая важная роля была адведзена гэтым дзецям! Дарэчы, Францішак і Гіацынта прызнаныя Касцёлам благаслаўлёнымі. Мы таксама можам маліцца да іх і прасіць аб святасці для нас. Але вельмі важна таксама, каб мы маліліся за нашу радзіму, за наш Касцёл і ўвесь свет. Дарослыя моляцца агульнабеларускую навэнну да Найсвяцейшай Панны Марыі.

А мы, дзеці, што можам мы? Кожнага дня – тры ***Вітай, Марыя…*** Гэта ж не шмат, праўда? Але калі мы будзем верныя гэтай малітве, то тым самым унясем свой уклад у навяртанне ўсяго свету. Мы адказныя за яго! Дык памятайма: штодня тры ***Вітай, Марыя***...

*Маленькі рыцар Беззаганнай*





***Радуйцеся таму, што імёны вашыя запісаны ў нябёсах.***

Лк 10,20.

**Ірына Жарнасек**

# ІМЯНІНЫ



Госці адразу дамовіліся: пакуль не з'ядуць усё – з-за стала не выйдуць. І дамова гэтая была без ніводнага голасу «супраць». Ды і якое магло быць «супраць», калі на стале – некалькі апетытных салатак, начыненыя рознай смакатой бліны, што красуюцца ў форме канверцікаў ды трубачак, фруктовыя прыгажунькі на шпажках... А да таго ж яшчэ будзе нейкая неспадзяванка на дэсерт. Пра дэсерт шапнуў ім, прыклаўшы палец да вуснаў, на пачатку гасцінаў сам імяніннік.

У Янкі сёння – імяніны! І ўсе госці, віншаванні, падарункі, уся гэтая смаката – дзеля яго. Гасцей ён сам запрасіў, і яны – мурзатыя, смешныя, вясёлыя – цяпер во шчыруюць за доўгім святочным сталом.

Увогуле бабуля казала, што на імяніны не трэба запрашаць гасцей, а той, хто павіншуе з імянінамі, ён жа адразу і лічыцца госцем. Ды мама з татам сказалі Янку, каб ён усё ж запрасіў тых, каго яму хочацца сёння бачыць, бо многія з ягоных сяброў проста не ведаюць, калі ў яго імяніны. Больш за тое, многія нават не чулі пра Яна Хрысціцеля – Янкавага нябеснага апекуна. Дык як яны даведаюцца, што ягоныя імяніны – 24 чэрвеня? А некаторыя нават не здагадваюцца, што з імянінамі трэба віншаваць. Вось і атрымліваецца, што няма чаго чакаць, бо тады можна нічога і не дачакацца!

Сябры дружна адгукнуліся на Янкава запрашэнне, бо хто, скажыце, не любіць хадзіць у госці? Такіх сярод Янкавых сяброў не аказалася.

Не ўсе з іх, што праўда, былі на Імшы, якая сёння таксама была за імянінnікаў. За яго, Янку, за рудавалосага міністранта Яна, за дзядзьку Яся, што часта падмятае пляц пры касцёле, за настаўніка гісторыі Івана Пятровіча і за сівога дзядулю ў саламяным капелюшы, які таксама аказаўся Янам. Усіх гэтых Янаў ксёндз, як і належыць, пералічыў на пачатку Імшы, павіншаваў, а таксама дадаў, што ён моліцца яшчэ і за ягоных улюбёных пісьменнікаў, якія ўжо ў вечнасці, – за святой памяці Янку Брыля, Яна Скрыгана і, вядома ж, за Яна Дамінікавіча Луцэвіча, гэта значыць, за Янку Купалу. Во ў якой сябрыне аказаўся сёння Янка! Не, што ні кажы, а імяніны – гэта здорава!

– Янка, а імяніны гэтак, як і дзень народзінаў, – адзін раз на год? – запытаў Максім, злізваючы з пальцаў варэнне.






– Адзін, – уздыхнуў Янка.

– А ў мяне два імені, – пахвалілася Марыйка, – таму ў мяне і двое імянінаў: 25 сакавіка і 18 жніўня, у дзень святой Гэлены!

– Шанцуе ж некаторым!.. Ну а калі б ты мела тры імені, то што – трое імянінаў было б?! – абурыўся Уладзік.

Усе засмяяліся, загаманілі, пачалі прыдумваць розныя імёны, якія б яны хацелі мець у дадатак да галоўнага. Імёнаў, самых розных, аказваецца, гэтак шмат! Хтосьці прапанаваў пагуляць у імёны гэтак жа, як яны часта гуляюць у назвы гарадоў. Гулялі ды гаманілі гэтак гучна, што ў дзверы пазваніла суседка, цётка Святлана, ды папытала, што ў іх такое тут робіцца.

– Янкавы імяніны святкуем! – адказаў тата і пачаставаў яе пірагом.

Потым мама прынесла каляндар, таўшчэзную кнігу пра святых, і дзеці доўга абмяркоўвалі, у каго якія заступнікі ў небе. Нават спрэчка ледзьве не разгарэлася. Міхась заявіў, што ў яго самы круты апякун, бо гэта — сам Міхал Арханёл з мячом, якому нават помнік пастаўлены. Сястра Міхася, Барбарка, зморшчыла нос і ледзьве не расплакалася. Ды мама супакоіла яе: сказала, што яе заступніца таксама вельмі моцная і знаходлівая: святая Барбара праявіла вялікую мужнасць і прыняла пакутніцкую смерць, але засталася вернай Хры-



сту. Не кожны мужчына і нават не кожны рыцар на такое здольны!

– Вось як яно, госцейкі дарагія, бывае, – падсумаваў тата і дадаў: – А я так думаю: кожны, хто трапіў у неба, – добры. Нядобрых там проста няма.

Запанавала ціша. Праз хвіліну яе парушылі ціхенькія ўсхліпы – гэта заплакала, размазваючы крэм па шчоках, пяцігадовая Каця. Увесь гэты час яна не падавала голасу і вось... наце вам...

– Што? Што такое? – абняла дзяўчынку Янкава мама, і тая забедавала:

– А як... Як мы з маёй мамай сустрэнемся ў небе?.. Яна ж памрэ раней за мяне... А там столькі людзе-ей... Як мы зной-дзем-ся-я-я?..

Госці зноў прыціхлі. І сапраўды – як?! Нават Янкавы мама з татам, якія заўсёды ўсё ведаюць, і тыя разгубіліся. Ды выратавала бабуля. Яна бадзёра гукнула з калідора:

– Знайшла мне бяду! У небе што, ніхто табе дарогі не падкажа? Там жа ўсе любяць адзін аднаго! І ты, Кацярынка, любіш сваю мамку, праўда?

– Люблю... вельмі... – шапнула Каця.

– Ну вось! А калі людзі моцна любяць адзін аднаго, яны абавязкова сустрэнуцца ў небе! Інакш проста быць не можа!

Апошнія бабуліны словы патанулі ў воплесках гасцей – бабуля ажно зачырванелася ад такога поспеху.

Позна ўвечары, збіраючы са стала, Янка раптам паставіў стажок брудных талерак на табурэт, а сам падбег да мамы і абняў яе:

– Дзякуй! Цудоўныя атрымаліся імяніны! Ты моцна стамілася? Можа заўтра прыбярэм у хаце?

Тата засмяяўся:

– Ідзі ўжо, імяніннік, разглядвай свае падарункі, а мы як-небудзь без цябе справімся.

– Святы Ян дапаможа з неба, – падсумавала бабуля.

*Мастак — Вольга Чарняўская.*





# НАВОШТА АСВЯЧАЦЬ ДЗЁННІК?

***Гутарка з пробашчам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Глыбокім Мікалаем Ціхановічам***

*– Ксёндз Мікалай! У першых чыслах верасня дзеці з партфелямі бягуць у касцёл. Хочаш ты гэтага альбо не, але пачаўся новы навучальны год. Для таго, каб усё ішло ў ім добра ды гладка, мы і бяжым з наладаванымі партфелямі ў касцёл. І вельмі хочам, каб свянцоная вада абавязкова трапіла на нашыя прылады. І абавязкова – на дзённік! Гэта ж вельмі важна, праўда?*

– Асвячэнне школьных прыладаў – гэта сакрамэнталій. Ён важны для нас, як і ўсё, што адбываецца ў касцёле. Але ў ім на першым плане стаіць просьба да Пана Бога благаславіць таго вучня, які будзе карыстацца ўсімі гэтымі прыладамі, а потым ўжо ідзе малітва аб благаслаўленні прыладаў, кніг, дзённіка.



Найперш важны чалавек, які будзе ўсім гэтым карыстацца, бо менавіта ад ягонай стараннасці, мудрасці, жадання будзе залежыць вельмі шмат.

*– Ціка-а-ава... А я думаў: самае важнае – асвяціць дзённік... Ну, каб ён не збіраў там двойкі-тройкі...*

– Ды не, браце! Найперш – чалавек! Але, безумоўна, важна таксама, каб Божы дотык спачываў і на ўсіх прадметах, якімі мы карыстаемся. Гэта дапамагае нам заўсёды знаходзіцца ў Божай прысутнасці. Тым і адрозніваецца вернік ад іншага чалавека, што ён усе свае ўчынкі, надзеі, мары – усё суадносіць з Божай воляй, Яго запаведзямі, Евангеллем.

*– Здорава! А скажыце: тым, хто асвяціў школьныя прылады, ім жа лягчэй будзе вучыцца ў параўнанні з тымі, хто не асвячаў?*

– Э-э не, Яська! На гэта ты не спадзявайся! І выкінь такія думкі з галавы! Я казаў сваім парафіянам, што дзясяткі ў іх сумкі пасыплюцца не таму, што святар асвяціў іх рэчы,

але ад іх супрацоўніцтва з Божай ласкай. У Касцёле няма ніякай магіі, не бывае нічога, што можна было б займець аўтаматычна. Для таго, каб справы ішлі на лад, трэба, каб хрысціянін абавязкова супрацоўнічаў з ласкай Святога Духа!

*– І што, зусім-зусім не будзе ад гэтага лягчэй?*

– Будзе! Калі ты, Яська, будзеш памятаць, што карыстаешся асвячонымі прадметамі, што адказны за тое, каб не марнаваўся час, які табе дае Пан Бог для вучобы.

*– Як усё складана-а-а... А ўявім, што хтосьці ў гэты час хварэў і не мог прыйсці ў касцёл. Як яму вучыцца?*

– Пан Бог найперш глядзіць на сэрца чалавека. Напрыклад, хтосьці хацеў бы асвяціць свае прылады, але не змог з нейкай прычыны, то Пан Бог жа ведае, што было жаданне, і яно лічыцца!

*– Цудоўна! Ён ведае пра нас усё-усё!*

– І ведае, і бачыць, і чуе... Таму не трэба перажываць, калі ты ў часе таго ж асвячэння падручнікаў стаяў дзесьці каля дзвярэй, а не перад алтаром. Магчыма, Пан Бог глядзеў на цябе ў тыя хвіліны з найбольшай любоўю. І ўжо зусім не варта перажываць, калі ў цябе, напрыклад, стары заплечнік, не самае прыгожае адзенне, красоўкі... Гэта як у прыпавесці пра грэшніка і фарысея. Памятаеш, як яны па-рознаму маліліся? Фарысей імкнуўся паказаць сябе



перад Богам з найлепшага боку. Але гэта быў ягоны погляд, а не Божы. А грэшнік проста шчыра каяўся, і таму пайшоў апраўданы!

*– Як усё таямніча-а-а...*

– Думаеш? А я сказаў бы – проста. У Пана Бога ўсё проста. Гэта мы, людзі, любім накручваць складанасці. А па сутнасці хрысціяніну важна заўсёды памятаць пра Бога і запрашаць Яго ва ўсе сферы свайго жыцця: у працу, вучобу, адпачынак. І тады мы навучымся жыць у свабодзе дзяцей Божых ды не будзем перажываць, дзе мы там калі стаялі, пырснулі на нас кроплі свянцонай вады, ці абмінулі нас. Само прабыванне чалавека ў Божай прысутнасці можа асвячаць і несці радасць.

*– Вялікі дзякуй, ксёндз Мікалай, за гутарку! Цяпер будзем ведаць, што мы самі таксама можам асвячаць сябе і ўсё, што робім, сваім даверам у Божую любоў і Яго міласэрнасць!*

– Жадаю усім вам моцнай веры!

*Гутарыў Яська Запытальнік.*

# Да новых сустрэчаў!

З некаторымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі з Друйскага дзіцячага дома я была знаёмая яшчэ раней: па іх малюнках, якія яны час ад часу дасылалі ў рэдакцыю нашага часопіса, з паведамленняў пра іх жыццё-быццё, пра іх добрыя справы. Напрыклад, у мінулым нумары быў надрукаваны матэрыял «Дзяліцца любоўю». У ім ішла гаворка пра тое, як хлопчыкі і дзяўчынкі разам з сёстрамі эўхарысткамі, якія служаць у Друі, наведваюць хворых, дапамагаюць адзінокім. Самотных людзей, на жаль, вельмі шмат. І шмат таксама тых, хто з нейкае прычыны трапіў у бяду. Зробленая дзіцячымі рукамі паштоўка са словамі падтрымкі тады будзе вельмі нават дарэчы, а спечанае ўласнымі рукамі пячэнне можа стаць найсаладзейшым і найсмачнейшым падарункам.

Шмат добрага я чула пра гэтых дзяцей ад сястры Наталлі Арлянковіч, якая аддае ім частку свайго сэрца. Таму пагаварылі мы ў нашай рэдакцыі, параіліся і вырашылі таксама зрабіць дзецям падарунак у выглядзе бібліятэчкі з кніг, якія выпускае выдавецтва «Про Хрысто», а таксама з некаторых іншых добрых кніг.

І вось на пачатку верасня выправілася я з гэтым каштоўным





грузам у Друю. Сястра Наталля вельмі ўзрадавалася нашай задуме. Мы разам пайшлі ў дзіцячы дом.

Дзеці пасля летніх канікулаў былі радасныя і вельмі ўзбуджаныя. Зразумела, што адпачываць заўсёды радасна і прыемна. Але што зробіш – працаваць, вучыцца таксама патрэбна!

Дзеці ўважліва слухалі, калі я расказвала ім пра наш часопіс, пра ягоных аўтараў і чытачоў, пра тыя кнігі, якія ім прывезла. Яны прыкметна ажывіліся, калі сястра Наталля паказала ім публікацыі, у якіх ішла гаворка пра выхаванцаў іх дома. Некаторыя пазнавалі на здымках сябе. А гэта ж, згадзіцеся, заўсёды прыемна – убачыць сябе на старонках каляровага часопіса.

Адзін хлопчык нават апрануў знарок для нашай сустрэчы адзенне рыцара! А другі потым таксама пажадаў пабыць хвілінку адважным рыцарам. Мы разам фатаграфаваліся, жартавалі. Я шчыра жадала ім заўсёды слухацца Бліскучага Анёла, а не Хіхіка. Калі хто чытаў, то гэта героі з маёй аповесці-казкі «Спрэчка анёлаў», якую я таксама з радасцю падаравала друйскім дзецям.

Праўда, некаторыя з іх прызналіся, што чытаць яны не вельмі любяць. Ну што ж: шчырасць – вельмі добрая рыса. Да таго ж, у жыцці часта ўсё змяняецца: сёння ты любіш адно, а заўтра, магчыма, будзеш даражыць іншым...

Калі сястра Наталля знайшла



ў ранейшых нумарах тэкст пра тое, як дзеці з Друйскага дзіцячага дома віншавалі людзей каляднымі паштоўкамі, усім зноў было радасна. Дарэчы, у тым жа нумары змешчаны і пераклад верша Самуіла Маршака «Багаж», які зрабіў... святар з Друі – Сяргей Сурыновіч. Не, выпадковасцяў у нашым жыцці не бывае! Мы, хрысціяне, гэта добра ведаем!

На памятку мы сфатаграфаваліся разам і развіталіся. Да новых сустрэчаў!

*Ірына Жарнасек*



# Канікулы з Богам



*У чэрвені 35 дзяцей з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса з Навапалацка адпачывалі ў Шуміліне. Тут адбыліся іх «Канікулы з Богам». За лета ў дзяцей, вядома, здараецца шмат падзеяў. І для таго, каб не забыцца пра тое, што перажылі на сваіх «Канікулах з Богам», дзве дзяўчынкі –* ***Саша Гушчанка*** *і* ***Насця Жураўлёва*** *– вялі дзённік. Вось запісы з яго.*

***9 чэрвеня.*** Першы дзень нашых «Канікулаў з Богам». Вельмі сур'ёзны быў гэта дзень. Мы «ішлі ў неба». Гэтае падарожжа было з завязанымі вачыма. Калі шлях роўны, то яшчэ так сабе, а калі ўзгоркі, а потым пачалася лясная дарога... О, гэта была прыгода! Па дарозе мы, нягледзячы на тое, што самі былі ў цемры, стараліся дапамагаць адзін аднаму. Як маглі і як умелі, вядома!

А ўзнагародай нам быў... абраз Езуса Міласэрнага, да якога мы прыйшлі.

Потым была гульня, калі нам трэба было пасядзець на... надзьмутых паветраных балоніках. Сядзелі, вядома ж, нядоўга. Балонікі лопаліся – было шмат смеху. Але з трэснутых балонікаў кожны з нас дастаў паперку з імем свайго таемнага сябра.



***10 чэрвеня.*** Цікавая была канферэнцыя пра святую Фаўстыну, якая бачыла Езуса. Езус даваў ёй розныя заданні, і яна вельмі старанна, з любоўю іх выконвала. Дзякуючы гэтаму людзі шмат даведаліся пра любоў Бога да нас. Таксама ў выніку сустрэчаў Езуса з Фаўстынай з'явіўся прыгожы абраз – Езуса Міласэрнага.

У гэты ж дзень у нас была спартакіяда. Мы ўсе вельмі стараліся, змагаліся, а перамагло, вядома ж, сяброўства.

***11 чэрвеня.*** Гэты дзень быў прысвечаны маці Тэрэзе з Калькуты. Яна жыла на зямлі зусім нядаўна і зрабіла вельмі шмат добрых спраў.

Яшчэ мы развучвалі танцы, сцэнкі-пантамімы, а пасля вячэры быў «Вясёлы вечар», на якім мы



праяўлялі свае таленты.

***12 чэрвеня.*** Нядзеля. На Імшы было шмат людзей, апроч нас.

Пасля абеду былі цікавыя гульні. Увечары ж мы шукалі... клад! Гэта вельмі нават няпроста, аказваецца, знайсці яго. Трэба мець і цярплівасць, і знаходлівасць, і кемлівасць. Але мы пастараліся і знайшлі той клад!

***13 чэрвеня.*** Пілігрымка ў Лескавічы. Там калісьці жыла заснавальніца супольнасці сясцёр змёртвыхпаўстанак Цэліна Бажэнцкая са сваёй сям'ёй. А паколькі нашы сёстры – Магдалена і Соф'я – змёртвыхпаўстанкі, то Цэліна і яе дачка Ядвіга з'яўляюцца іх духоўнымі маці. Цікава гэта.

У Лескавічах вельмі прыгожа: старадаўні парк, старыя пабудовы і вельмі прыгожае возера. Наш абед быў на тым возеры, пры вогнішчы! Нічога і ніколі смачнейшага мы не елі!

А ўвечары ў касцёле была ўрачыстая святая Імша, бо тут кожны год з мая да кастрычніка кожны месяц 13-га чысла адбываецца свята ў гонар аб'яўлення Маці Божай у Фаціме. Была вельмі прыгожая працэсія вакол касцёла. Мы ўсе маліліся на ружанцы, а старэйшыя нашы дзеці нават неслі фігуру Маці Божай.

***14 чэрвеня.*** Гэта быў хоць і апошні, але вельмі вясёлы і насычаны дзень нашага летніка. Была цікавая канферэнцыя пра святога Леапольда. Быў канцэрт. Мы былі і гледачамі, і артыстамі! У гэты ж вечар кожны з нас нарэшце даведаўся, хто з'яўляецца ягоным «таемным сябрам». Гэта выклікала шмат смеху і радасці!

І ўвогуле: увесь наш летнік атрымаўся вельмі круты. Праўдаправўда!

Вялікі дзякуй за яго арганізацыю сястры Магдалене, а таксама нашым аніматарам: Насці, Паліне, Андрэю, Віктару, Яну, Ангеліне, Антону, Маргарыце, Наталлі... І вялі-і-ікі дзякуй сястры Соф'і за самыя смачныя на свеце пірагі!

# Абаражэм братоў нашых меншых

***Я прашу ўсіх людзей добрай волі: давайце будзем ахоўнікамі стварэнняў, Божага плану, упісанага ў прыроду, у навакольны свет. Бог прабачае заўсёды, чалавек – час ад часу, а прырода – ніколі, калі пра яе не клапаціцца.***

Папа Францішак

**У гэтым годзе ўпершыню адбыўся Сусветны дзень малітваў у абарону Божых стварэнняў. Гэты дзень устанавіў Папа Рымскі Францішак. Ён будзе заўсёды адзначацца 1 верасня, таму вельмі лёгка запомніць, калі трэба маліцца не толькі за нас, але і за нашых братоў меншых. Так, нам вельмі патрэбна за іх і маліцца, і аберагаць іх жыццё, бо ўсе мы – Божыя стварэнні. Але на нас яшчэ ляжыць адказнасць за слабейшых, за тых, хто часта не можа сябе абараніць.**

## Ён выратаваў сваю сям'ю

У Італіі гэты сабачка выратаваў сям'ю Дыльеры ад землятрусу, які здарылся ў жніўні гэтага года.

Яны жылі ў гарадку Аматрычы. Прыкладна за 10 хвілін да землятрусу сабачка пачаў брахаць, скавытаць і разбудзіў усіх.

Яны пачалі на яго сварыцца, але раптам... адчулі штуршкі... Разам са сваім выратавальнікам усе выбеглі на вуліцу, а праз хвіліну іх дом рухнуў!

Цяпер уся сям'я – чатыры чалавекі і іх сабачка – жывуць у палатцы. Але яны вельмі шчаслівыя, бо з іх сям'і ніхто не загінуў і нават не параніўся. Яны вельмі ўдзячныя свайму найменшаму сябру. А завуць сабачку – Мафія. Не зусім удалае для яго імя, праўда?






## Лебедзі-пілігрымы

Што людзі прыходзяць і прыязджаюць у Росіцу пілігрымамі – гэта ні для каго не дзіва. Ды вось мінулым летам у Росіцу прыйшлі... лебедзі!

А было гэта так. Напачатку прыляцеў дарослы лебедзь — паплаваў па невялічкім прыгожым азярку, якое выкапаў ксёндз Часлаў у свой час. І вельмі ж даспадобы прыйшлося гэтае азярко птушцы. Тут табе і лілііі квітнеюць, і людзі прыходзяць, каб на тыя лілііі палюбавацца. І яго, лебедзя, убачылі ды пачалі ім захапляцца. Спадабалася, словам, азярко і неўзабаве лебедзь



знік, каб на наступны дзень з'явіцца... з усёй сям'ёй!

Людзі бачылі, як чынна й паважна топала сабе гэтая сямейка па росіцкай вуліцы. Спераду, як і належыць, высока ўзняўшы галаву, тата Лебедзь, за ім – вывадак шэрых смешных камячкоў, а за імі – мама Лебедзь, якая рупліва сачыла, каб ніхто з малых не адстаў у дарозе. Так і прыйшлі. І плёхнуліся ўсе дружна ў прыгожае азярко – люба-та-а-а... І прыжыліся, з тутэйшымі дзецьмі ды іх бацькамі пасябравалі.

*Кастусь Сарока*






# ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

**Сябры!**

На канікулах адгадваць загадкі, шукаць на іх адказы ў кнігах, можа, і не надта хочацца. А ўвосень, калі падаўжэлі вечары, пахаладнела на двары, то можна і гэтым заняцца. Тэмай жа нашых загадак, як і ўсяго часопіса ў асноўным, з'яўляецца святасць. Паразважаем!

- Назаві імёны евангелістаў, якія прызнаны Касцёлам святымі.
- Калі чалавек быў грэшнікам, а потым выправіўся, то ці мае ён шанец стаць святым? Ці можаш назваць імёны хоць бы двух такіх святых? (Пажадана з Кнігі Новага Запавету.)
- Па календары Касцёла мы звычайна святкуем дзень успаміну святых, калі яны адышлі ў вечнасць. А ці ведаеш ты святога, чый дзень народзінаў мы таксама святкуем? Калі?
- Назаві свайго любімага святога. За што ты яго любіш?
- Ці ведаеш ты, калі твае імяніны? У гонар якога святога?
- Ці ведаеш, што азначае тваё імя?

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 2 за 2016 г.**

**«Загадкі з Біблії»:** у Кнізе Зыходу, зыход габрэяў з Егіпта; з Назарэта ў Бэтлеем, бо ў гэты час быў перапіс насельніцтва; у Ерузалем; у Ерузалеме; Эмаўс; у Дамаск; «Саўл, Саўл, чаму ты пераследуеш Мяне?» (Дз 9,4).

**Рэбус:** пілігрымка.

**Святыні Беларусі:** гэтыя святыні знаходзяцца ў Лагішыне (касцёл святых Пятра і Паўла Апосталаў), у Росіцы (касцёл Святой Тройцы), у Будславе (малая базыліка Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі), у Гудагаі (касцёл Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі), у Браславе (касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі), у Тракелях (касцёл Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі) у гэтыя святыні прыходзяць пілігрымкі вернікаў.

На жаль, сябры, ніхто з вас на гэтыя раз не адгадаў правільна ўсе нашы загадкі. Жадаем поспехаў у будучым!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*




# Смяшынкі-весялінкі

— Мацвей! Ты разумееш, што кожная твая непаслухмянасць дадае мне адну сівую валасіну? — запыталася мама.

— Ой-ёй! Як жа ж ты не слухалася бабулі!.. — схапіўся за галаву Мацвей.



# Крыжаванкі

## ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ СВАЮ КРАІНУ?




## СВЯТЫЯ І БЛАГАСЛАЎЛЁНЫЯ БЕЛАРУСІ

Сябры! Жыццёвы шлях святых і благаслаўлёных, якіх вы тут бачыце, цесна звязаны з Беларуссю. Назавіце іх.



*Святы ............... каралевіч.*

*Благаслаўлёны ............... біскуп Віленскі.*



*Благаслаўлёныя сёстры ............... з ............. .*





*Святы ............... удзельнік паўстання 1863 г.*



*Благаслаўлёная ............... — мучаніца.*

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Б | А | Р | У | О | Д | З | О | Р | Ь | Л | Ц | А | Л | Е |
| Г | П | Г | Ц | А | П | А | Ў | Р | І | Ў | І | Р | Ц | Ц |
| С | У | В | А | Д | Я | А | Т | Д | Ы | К | М | К | І | У |
| Г | П | Г | Ц | А | П | А | Ў | Р | І | Ў | І | Р | Ц | Ц |
| Ж | Т | М | А | Е | К | Е | Б | О | Т | А | Ж | М | К | Т |
| Г | П | Г | Ц | А | П | А | Ў | Р | І | Ў | І | Р | Ц | Ц |
| Д | Т | Ш | З | Ш | Я | Р | В | Р | З | В | Г | Г | Д | Т |
| Д | К | Ф | Д | Й | К | Н | Ф | Н | Д | Й | Е | Е | Ю | Ю |
| А | С | О | В | І | Х | О | Х | Г | Я | А | Т | Г | Ы | І |
| Д | К | Ф | Д | Й | К | Н | Ф | Н | Д | Й | Е | Е | Ю | Ю |
| О | Е | У | Л | Р | П | Ь | А | О | Л | Е | Ь | У | Р | Н |
| Г | П | Г | Ц | А | П | А | Ў | Р | І | Ў | І | Р | Ц | Ц |
| Ц | В | Л | Ў | А | Ш | Е | Т | О | Е | Ц | Т | О | Ў | Л |
| Г | П | Г | Ц | А | П | А | Ў | Р | І | Ў | І | Р | Ц | Ц |
| В | Л | Ш | Ю | А | В | Л | Ў | А | Ў | Б | Ю | О | Ш | Г |

## Галаваломка

Закрэсліце ў кожным радку літары, якія паўтараюцца больш за адзін раз, а з літараў, якія застануцца, складзіце словы і прачытайце, як Бог заклікае нас да святасці.







*Рубрыку вядзе*
*Марыя Ганчаронак*

*Нашы рукі да працы гатовы*

# Ружы для Марыі








Сябры! Кастрычнік – цудоўны месяц, прысвечаны Маці Божай, месяц асаблівай малітвы на святым ружанцы.

У старажытнасці быў цудоўны звычай: хрысціяне ўшаноўвалі Хрыста, Маці Божую і святых, складаючы вянкі з ружаў на іх алтарах.

Прапаную вам зрабіць сваімі рукамі прыгожыя ружы, якімі вы зможаце ўпрыгожыць ваш алтарык або камусьці падараваць іх.

**Для гэтага спатрэбяцца:**

- **добры настрой;**
- **аловак;**
- **каляровая папера;**
- **клей;**
- **нажніцы.**

На зялёным аркушы паперы намалюем лісткі і выражам іх. На белым, ружовым, чырвоным або іншым аркушы (колер вашай ружы) трэба намаляваць спіральку, у якой будзе не больш чым пяць завіткоў.

Ад шырыні «дарожкі» залежыць памер вашай ружы. Спіральку выражце і пачынайце закручваць з вонку. Скручаная палоска павінна нагадваць шматпластавы конус. Калі звернеце спіраль да цэнтральнага кружка, адпусціце яе. Надайце кветцы патрэбную форму: калі спіраль скруцілася занадта туга – крыху распусціце, калі слаба – пастарайцеся скруціць яшчэ раз. Змажце клеем цэнтральны кружок. Прыцісніце сярэдзінку кветкі да кружка і патрымайце, пакуль схопіцца клей. Потым ружу трэба наклеіць на край лістка. Вось і гатова!









# Прыпавесці

# Шчасце

Бог зляпіў чалавека з гліны, і ў Яго застаўся нявыкарыстаны кавалак.

– Што яшчэ зляпіць табе? – запытаў Бог.

– Зляпі мне шчасце, – папрасіў чалавек.

Нічога не адказаў на гэта Бог, толькі моўчкі паклаў чалавеку на далонь кавалачак гліны…

*Малюнак Аляксандры Хамяковай.*





# Галерэйка

Сябры! З радасцю прадстаўляем на гэты раз у нашай «Галерэйцы» юных мастакоў з Друйскага дзіцячага дома, што на Браслаўшчыне.



"Малітва".
Дзіяна Цімошчанкава.



"Марыя, сонейка і я".
Віка Сінкевіч.



"Мама, тата і я".
Вераніка Кароль.



"Краявід з вакна".
Лена Латышава.



"Пустэльня".
Люда Пыжыкава.

У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).

